




№14 (107), ліпень 1996 г.

**...Як жыць — дык жыць для Беларусі. А без яе — зусім не жыць.**

*Ларыса Геніюш.*



**На здымку: у ліпені ля будынка Віцебскай абласной біблі-ятэкі ўрачыста адкрыты помнік нашай зямлячцы, вядомай паэтэсе Еўдакіі Лось.**

# Беларусь: Дзе ўзяць грошы?*

Урад Беларусі прыняў новую пастанову, што датычыць перш за ўсё расіян, якія едуць на сваіх машынах або перавозяць грузы з Польшчы праз Беларусь у Расію.

З 1 лістапада ўводзіцца плата за праезд па трасе Брэст-Мінск-мяжа Расійскай Федэрацыі. На блі-жэйшыя два гады вызваляюцца ад платы за праезд толькі ўладальнікі беларускага аўтатранспарта і транзітнікі, якія перапраўляюць у Расію "гуманітарныя" грузы.

Участак дарогі Берлін-Масква, праходзячы праз Беларусь, далёка не сучасны. І ў адрозненне нават ад расійскага ўчастка амаль пазбаўлены якой-небудзь інфраструктуры для вадзіцеляў. Але фінансавае становішча Мінска сёння нястолькі цяжкае, што ўла-ды гатовыя браць грошы за ўсё, што ўгодна. Прыдумваць новыя пaборы зрабілася любімым заняткам беларускіх чыноўнікаў.

Сёння разліковыя рахункі многіх беларускіх прадпрыемстваў амаль пустыя. Адно з буйнейшых мінскіх прадпрыемстваў "Гарызонт", якое выпускае тэлевізары, толькі што расплацілася з рабочымі за красавік. Прычым выплаты зрабілі за лік узятага крэдыту. Рабочыя вытворчага аб'яднання "Радыётэхніка", якія нядаўна наладзілі імправізаваную забастоўку ля прахадной, патрабуючы зарплаты за красавік, атрымалі па сто тысяч рублёў (8$).

У сваю чаргу, замарожаны па загаду прэзідэнта яшчэ паўтара года назад курс рубля да даляра прывёў да заняпаду нават тых вытворчасцяў, што паспяхова зараблялі на экспарце. Прэзідэнт ця-пер вылучыў новую прапанову мак-сімальнай мяжы "валютнага калі-дора", якая, як сцвярджаюць боль-шасць эканамістаў, намнога менш, чым рэальныя суадносіны даляра і рубля. Старшыня Нацыянальнага банка Т.Віннікава адмовілася візі-раваць указ Лукашэнкі. Адначасова сур'ёзная камісія ўзялася за праверку цяпер дзяржаўнага "Беларусьбанка", якім раней кіравала Т.Віннікава.

Яшчэ адзін сюрпрыз, але на знешнепалітычнай арэне, зрабілі беларускія ўлады брацкай Маскве. "Расія павінна заплаціць Беларусі за ядзерную зброю, выводзімую з яе тэрыторыі",— заявіў памочнік прэзідэнта С.Посахаў. Ён прывёў у якасці прыкладу Украіну, якая дамовілася з Расіяй як аб фінансаванні самога працэсу раззбраення, так і аб аплаце кошту ядзернай зброі, якая знаходзілася на яе тэрыторыі. У Беларусі пакуль працягваюць заставацца 18 ядзерных расійскіх боегаловак. Іх ужо павінны былі вывезці. Але А.Лукашэнка прыпыніў гэты вываз.

Нават беларускі парламант аказаўся сёння ў няёмкім становішчы ў сувязі з недахопам сродкаў у бюджэце. Спікер парламента, напрыклад, нядаўна ез-дзіў у ЗША, дзе знаходзіўся на поўным забяспячэнні прымаючага боку. На тых жа ўмовах беларускія парламентарыі адстойвалі ў Страсбургу неабходнасць уступлення краіны ў Раду Еўропы. Прэзідэнт публічна абрынуўся на дэпутатаў, якія трацяць народныя грошы, раз'язджаючы па розных краінах. Адміністрацыя намерана ўвесці правіла, згодна якому дэ-путаты павінны будуць звяртацца за дазволам на кожную паездку за мяжу — як гэта робяць чыноўнікі адміністрацыі прэзідэнта і нават галоўныя рэдактары дзяржаўных выданняў.

Усе паездкі за час работы цяперашняга парламента (а гэта каля 80 візітаў) абышліся казне ў 11 тысяч даляраў. "Эканомія" дасягалася тым,што амаль усе паездкі ажыццяўляліся за кошт прымаючага боку. Між тым на знешне-палітычную дзейнасць Вярхоўнага Савета ў бюджэце закладзены 1 мільён даляраў. Але няма грошай у казне — няма іх і на рахунку парламента. Спікер С.Шарэцкі адмовіўся ўзначальваць дэлегацыю на сесію. парламенцкай асамблеі АБСЕ, якая з 4 па 10 ліпеня праходзіла ў Швецыі. Спікеру, па яго словах, сорамна, што Беларусь пазбавілі права голасу ў АБСЕ за няўплату членскіх узносаў, паколькі на валютны рахунак Вярхоўнага Савета урад не пералічвае сродкі. Членскі ўзнос складае ўсяго каля дзесяці тысяч даляраў...

**Аляксандр Бялоў.**

Мінск.

(Газета "Русская мысль", №4134, 11-17 июля 1996г.)

* пераклад рэд.

## Ці быць меджлісу на Беларусі?

Не перастае здзіўляць сваім багатым уяўленнем Прэзідэнт Лукашэнка.

Пасля афіцыйнага візіту ў Францыю ён раптам заявіў, што збіраецца ўнесці пытанне на рэспубліканскі рэферэндум гэтай восенню аб працягу прэзідэнцкіх паўнамоцтваў яшчэ на два гады. Загадка робіцца зразумелай, калі ўспомніць, што прэзідэнта Францыі абіраюць на сем год.

Цяпер, пасля паездкі ў Турцыю, не выключана, што на гэты рэферэндум будзе вынесена яшчэ адно пытанне: аб перайменаванні Вярхоўнага Савета ў меджліс.

Так што "вертыкальшчыкам", магчыма, прыйдзецца пад чырвона-зялёным сцягам вывучаць Каран, бо яго, пэўна, лягчэй вывучыць, чым беларускую мову.

Нам застаецца толькі чакаць, куды яшчэ паедзе Аляксандр Рыгоравіч і што адтуль прывязе.

**Язэп Калючка.**

## Лукашэнка гуляе ў "рэферэндум", Вярхоўны Савет — у "імпічмент"

Два замежныя словы ўсё трывалей замацоўваюцца ў беларускай палітычнай лексіцы. Прэзідэнт А.Лукашэнка зноў вырашыў згуляць у "рэферэндум". Ён упэўнены, што яго зноў падтрымаюць 80% выбаршчыкаў. Хутчэй за ўсё, так і будзе. Бо ў не свабодным грамадстве, дзе асноўныя сродкі масавай інфармацыі належаць дзяржаве, кіраўніцтва гэтай дзяржавы можа дабівацца на "рэферэндумах" любых пажаданых для сябе вынікаў. Захацелі — правялі ў 1991г. гарбачоўскі "рэферэндум" аб захаванні СССР, пытанне на якім стаяла ў некарэктнай і двухсэнсоўнай форме і атрымалі тое, чаго хацелі. Захацеў Лукашэнка і ягоная хеўра — праз "рэферэндум" адкідваюць гістарычную сімволіку, вядуць чарговы наступ на беларускую мову. Можна ў якасці прыкладаў прывесці таксама "рэферэндумы", якія праводзілі іракскі дыктатар С.Хусейн і "туркменбашы" С.Ніязаў, абодва атрымалі "усеагульную" падтрымку сваіх народаў і імкнуцца кіраваць пажыццёва. Амаль тое ж — у цэнтры Еўропы, на Беларусі.

А з Вярхоўнага Савета ўсё часцей гучыць слова "імпічмент"— законнае адхіленне прэзідэнта ад улады за парушэнні ім Канстытуцыі і законаў. Відавочна, што гэты "номер" у Вярхоўнага Савета не пройдзе — не той у нас узровень дэмакратыі. Але Лукашэнка разумее, што разгон Вярхоўнага Савета прынясе яму шмат непрыемнасцей, павялічыць колькасць яго палітычных праціўнікаў як унутры краіны, так і на міжнароднай арэне.Таму, імкнучыся захаваць сваё "дэмакратычнае аблічча",ён выступае з ініцыятывай новага "рэферэндуму".

Не будзе ў нас ніякага сапраўднага рэферэндуму, ні сапраўднага імпічменту. Але відавочна, што Масква ўжо незадаволена Лукашэнкам, як і ён кіраўніцтвам Расеі. Калі Лукашэнка зарвецца і ў яго не хопіць розуму своечасова пайсці ў адстаўку, то маскоўскія гаспадары гэтай марыянеткі адхіляць яго ад улады прыкладна такім спосабам, як "адхілілі" у свой час Машэрава.

**А. Букачоў.**

## *Урачыстая літургія па выпадку 400-годдзя Брэсцкай уніі**

У Рыме, у Саборы Св. Пятра, у нядзелю 7 ліпеня была здзейснена ўрачыстая літургія па выпадку 400-годдзя Брэсцкай уніі, якая і па сённяшні дзень з'яўляецца яблыкам раздору паміж каталіцкімі і праваслаўнымі, нягледзячы на тое, што чатыры стагоддзі існавання, часамі вельмі цяжкага, даказваюць рэальнасць і жыццёвасць Грэка — Каталіцкай Царквы. Можна, здавалася б, толькі прызнаць гэтую рэальнасць і паспрабаваць навучыцца з ёй жыць. Доўгі час яе не хацелі прызнаваць ні каталікі лацінскага абраду, ні праваслаўныя; Цяпер супраціўленне пераважна з боку праваслаўных, хоць адносіны на месцах з "лацінянамі" далёка не заўсёды бязвоблачныя. А колькі пакутнікаў за веру і вернасць у гэтай Царквы, асабліва ў часы камуністычнага уладарніцтва! Але вось ужо на парозе трэцяга тысячагоддзя хрысціянства мы ўсё яшчэ ніяк не можам дамовіцца, хто большы і лепшы пакутнік і святы.

Цырымоніі ў Рыме былі маліўтвеннымі і смірэннымі; Іаан Павел II, які ўдзельнічаў у літургіі візанційска-украінскага абраду (як яго афіцыйна называюць і які ні ў чым, акрамя памінання Папы, не адрозніваецца ад праваслаўнага абраду, прынятага ў Расіі), у сваім слове нагадаў аб першых чатырох Саборах ранняй хрысціянскай (неападзелянай) Царквы; на гэтых Саборах, выпрацоўваўшых і фармуліраваўшых важнейшыя вызначэнні хрысціянскага веравучэння, было нямала спрэчак і разнагалоссяў і ўжо ясна абазначыліся рысы хрысціянскага Усходу і Захаду, але было адзінства ў веры, супрацоўніцтва і ў канчатковым выніку ўменне дамовіцца.

Іаан Павел II асабліва спыніўся на Эфескім Саборы, на якім было прынята рашэнне аб пачытанні Прысвятой Дзевы Марыі як Богамацеры. Вядома палымяная адданасць Папы Багародзіцы; Ёй як пасярэдніцы і заступніцы ён і ў гэты раз даверыў будучыню Царквы, хрысціянства, чалавецтва. Звяртаючыся да братоў, якія намаганні належаць да Грэка-Каталіцкай Царквы. Іаан Павел II заклікаў іх прыкласці ўсе дзеля таго, каб здзейснілася поўнае прымірэнне з праваслаўнымі і зроблены былі цвёрдыя крокі ў бок адзінства, ў выкананне волі Гасподняй.

**Ірына Ілавайская.**

(Газета "Русская мысль" №4134, 11-17 ліпеня 1996г.)

* пераклад рэд.

# Каму патрэбны такія святы?

Ужо які год запар у ліпені месяцы ўлады Віцебска вытрасаюць з дзяржаўнай кішэні, з кішэняў жыхароў горада апошнія грошы, ладзяць пампезныя відовішчы, назва якім "Славянский базар".

З даўніх часоў павялося: чым горш справы ва ўладароў, чым больш збяднелыя іх падданыя, тым больш вычурней і часцей святы, каб адцягнуць увагу ад надзённых праблемаў.

Таго, хто разумеў гэта, у часы сярэднявечча адпраўлялі на дыбу. У савецкія часы гэбісты зрабілі вынаходніцтва. Такіх ізалявалі ад грамадзтва.

Нешта падобнае адбывалася ў гэтым годзе ў нашым Віцебску.

У каго ў кішэнях ёсць грошы — тым зоркі расейскай эстрады, а ў каго вецер свішча — сто граммаў на разліў і загад міліцыянтам такіх не чапаць. Хоць на тыдзень, але ж павінна адбыцца адзінства і згода народа і ўладаў. Хто ж у гэта "адзінства" не ўпісваўся, таго старанна ахоўвалі шматлікія міліцыянты і людзі ў цывільным як ад народа, так і ад уладаў.

Пазнаваць такіх было ня цяжка, бо не былі на падпітку, а самае галоўнае, размаўлялі на беларускай мове.

Дастаткова было мне і маім сябрам у дзень адкрыцця фестывалю 11-га ліпеня затрымацца ў памяшканні рэдакцыі газеты і выйсці на вуліцу, калі ўжо там "народ отдыхал", як людзі ў цывільным з рацыямі прапанавалі нам да гэтага народа не далучацца, а незаўважнымі знікнуць. Неўспрыняцце ж намі гэтых парадаў прывяло да таго, што прама на пешаходны пераход перад намі выкаціў міліцэйскі "усюдыход". Перагарадзіўшы шлях, з яго выскачылі міліцыянты на чале з намеснікам Чыгуначнага РАУС падпалкоўнікам Мурашкіным. З дапамогай тумакоў, пусціўшы юху, запіхнулі ў аўтамабіль мяне, Барыса Хамайду і Юрыя Мароза. Справу рабілі як добра спрактыкаваныя бандыты, бо ў міліцэйскім пастарунку нават не прад'явілі ніякіх абвінавачанняў, а калі ўбачылі, што Юры Мароз можа страціць прытомнасць — злітасціліся і адпусцілі. Праўда, не забыліся папярэдзіць, каб не хадзілі на той "базар".

Вынік міліцэйскай аперацыі — шэсць дзён Юрыя Мароза ў абласной бальніцы ў каардыялагічным аддзяленні, якога туды даставіла "хуткая дапамога" з пад вокнаў міліцэйскага пастарунку, і даведкі аб цялесных пашкоджаннях у мяне і Барыса Хамайды, ды яшчэ нашы заявы ў пракуратуру.

Але ж, ці знойдуць вінаватых?

Відаць, не.

Бо 16 ліпеня мяне з Барысам Хамайдам зноў завалаклі ў той самы пастарунак, адабралі газеты "Имя" і "Выбар". А на мяне ў дадатак склалі пратакол і адвезлі ў суд, бо я стаяў з прышпіленай на грудзях аб'явай аб лёсе Юрыя Мароза.

Суд парушэнняў з майго боку не знайшоў, але ж газеты да падпісчыкаў не дайшлі, а мы такім чынам абодва разы на нейкі час былі ізаляваны ад "отдыхающих", бо двойчы вярталіся дамоў ужо ўначы.

Абнадзейвала, што гэта перадапошні дзень "свята". Заўтра ўсё скончыцца і можна будзе з палёгкай уздыхнуць.

Але нечакана як раз у апошні дзень "базара" завітаў на яго "бацька" і ўсё паўтарылася, як і ў дзень адкрыцця.

Сачыць за Хамайдай, Марозам і мной людзі ў цывільным пачалі яшчэ з раніцы. Відаць, іх кіраўнікі баяліся, што калі газета "Выбар" надрукавала верш Славаміра Адамовіча "Убей президента", дык яе супрацоўнікі могуць і прыбіць "бацьку". А яшчэ больш баяліся, каб таму на вочы не трапіў бел-чырвона-белы сцяг, бо ён дзейнічае на прэзідэнта як на быка чырвонае. Дастаткова было Юрасю Карпаву выйсці на вуліцу з папяровым сцяжком, размаляваным у бел-чырвона-белы колер, як на таго накінулася зграя міліцыянтаў і адвалакла ў пастарунак, дзе быў складзены пратакол аб правапарушэнні адміністратыўнага кодэкса Рэспублікі Беларусь, арт.167[2]. Яго лёс будзе вырашаць адміністратыўная камісія Кастрычніцкага раёна.

Мяне ж, Барыса Хамайду і Юрыя Мароза, які ў той дзень выпісаўся з бальніцы і яшчэ не паспеў даехаць да хаты, пад вечар зноў адлавілі на вуліцы тыя ж супрацоўнікі Чыгуначнага РАУСа.

На гэты раз аперацыяй захопу кіраваў сам начальнік РАУСа палкоўнік Вераб'ёў.

Зноў усё рабілася з прымяненнем фізічнай сілы, нахабна і са здзекам. Марозу нават заламвалі рукі. Зноў ніякіх абвінавачанняў і трыманне ў пастарунку да ночы. Пратакол састаўляць не спяшаліся, бо ў нас на руках былі скручаныя ў трубкі плакатныя лісты. Відаць думалі, што на гэты раз нам без пакарання не выйсці. Трэба было бачыць твары тых міліцыянтаў, што нас затрымалі і якім падзякаваў палкоўнік Вараб'ёў за ўдала праведзеную аперацыю, калі развярнулі тыя лісты. У Барыса Хамайды быў каляндар з выявай Яна Чачота, а ў мяне плакат грамадзянскай абароны.

Нас зноў выпіхнулі з пастарунка.

Людзі ў цывільным з рацыямі суправаджалі да хаты Юрыя Мароза і Барыса Хамайду, не пакідалі іх, нават калі тыя заходзілі ў прыбіральню.

Мяне ж "ахоўвалі", пакуль дабіраўся пешшу ўначы за 12 кіламетраў ў вёску Вароны. Людзі ў цывільным і міліцыянты стаялі на кожным з'ездзе са Смаленскай шашы аж да самай кальцавой дарогі.

Тую шчыльную ахову мне прыйшлося бачыць упершыню. Гэтага не бы нават калі ў сямідзесятыя гады прыязжалі ў Менск Брэжнеў і Кастра. Ішоў я ўначы ў сваю вёску і нібыта стаў удзельнікам тых падзеяў, што апісаў у сваім рамане "Победа" Аляксандар Чакоўскі, калі павадыр усіх народаў выязжаў з Масквы.

Нявольна ўзнікае пытанне: наша краіна жыве ў мірны час, ці знаходзіцца ў стане вайны з кімсьці? Дзейнічае, ці не сёння Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь? Калі "бацька" так баіцца тэрарыстаў, чаму ён выязжае за межы сваёй рэзідэнцыі? І нарэшце, каму патрэбны такія святы, як "славянский базар", калі горад Віцебск пры яго правядзенні знаходзіцца нібыта ў аблозе?

**Ул. Плешчанка**




Мал. Лысака Ведзьмагорскага.

# ЛЁС С.АДАМОВІЧА ВЫРАШЫЦЦА Ў ВІЦЕБСКУ

Восенню 1994 г. беларускі паэт і журналіст Славамір Адамовіч наведаў Віцебск. Гэтая яго паездка нарабіла шмат шуму. Улады не змаглі прыдумаць нічога лепшага, як аб'явіць замініраваным памяшканне прыватнай галерэі мастака А.Пушкіна, дзе пад кіраўніцтвам С.Адамовіча праходзіў з'езд беларускіх нацыяналістаў, і прымяніўшы грубую сілу, павыкідвалі і удзельнікаў з'езду, і журналістаў, якія там прысутнічалі, на вуліцу. А суддзі Кастрычніцкага раённага суда ў дадатак яшчэ прысудзілі каму штрафы, каго, у тым ліку А.Пушкіна і С. Адамовіча на некалькі сутак адправілі пад варту. Гэта была рэпетыцыя—праз паўгода спецслужбы ажыццявілі той самы сцэнарый у Мінску, у будынку Вярхоўнага Савета.

І вось С.Адамовіч зноў прыбывае ў Віцебск, цяпер пад узмоцненай аховай. Віцебскі абласны суд будзе яго судзіць за верш "Убей президента". Чаму месцам суда прызначаны Віцебск, а не Мінск, дзе жыве С.Адамовіч? Гэта не выпадкова. Пасля таго, як З.Пазьняк і С.Навумчык звярнуліся з просьбай аб палітычным прытулку ў ЗША, вельмі актуальнай стала тэма аб палітычных праследаваннях у Беларусі. У сталіцы — паслы замежных краін, шмат журналістаў, незалежных ад кіраўніцтва Беларусі. Улады баяцца чарговага палітычнага скандалу. Іншая справа Віцебск. Дзейнасць палітычных партый тут зведзена амаль да нуля, адсутнічаюць незалежныя парафсаюзы і іншыя дэмакратычныя арганізацыі. Калі Беларусь — самая савецкая з усіх былых рэспублік СССР, то Віцебск — самы савецкі, а значыць, самы рэакцыйны, самы антыбеларускі сярод буйных гарадоў Беларусі. Вось чаму ўладам выгадна правесці чарговае палітычнае судзілішча ў правінцыяльным і ціхім Віцебску, спадзеючыся, што тут усё пройдзе непрыкметна для беларускай і міжнароднай грамадскасці.

Даўно не судзілі беларускіх паэтаў за іх творчасць. Пэўна, віцебскім суддзям прыйдзецца успомніць вопыт сваіх папярэднікаў, якія ў 30-я гады знішчылі, адправілі ў сталінскія турмы і канцлагеры сотні ні ў чым не вінаватых прадстаўнікоў нацыянальна свядомай беларускай інтэлігенцыі. А ў Віцебску апошні раз беларускага нацыяналіста судзілі ў восень 1945 г.:тады тут маскоўскія акупанты прыгаварылі да пакарання смерцю праз павешанне беларускага генерала Кастуся Езавітава **(падрабязней пра лёс К.Езавітава гл. у кнізе : Кастусь Акула. Змагарныя дарогі Мінск, "Мастацкая літаратура", 1994)**.

І вось — зноў суд над "здраднікам", над беларускім нацыяналістам, якому лукашысты "шыюць" крымінальную справу. Кажуць, гісторыя паўтараецца, але першы раз - як трагедыя, другі раз як фарс.

**Алесь Прыдзвінскі.**

# Так пачынаўся камунізм

Аднойчы, калі я працаваў у Віцебскім абласным архіве, выконваючы рэдакцыйнае заданне, давялося азнаёміцца з цікавым дакументам пад назвай "Годовой отчет за 1961 год по управлению промышленности Витебского облисполкома".

Як вядома, у тым годзе была прынята хрушчоўская Праграма пабудовы камунізму да 1980 года. З якімі ж вынікамі пачыналі гэтае будаўніцтва на Віцебшчыне? Вось што гаворыцца ў названым "Годовом отчете...": "Принятые социалистические обязательства на 1961 год в январе месяце, в связи с подготовкой к 22-му съезду КПСС в августе 1961 г. были пересмотрены и взяты дополнительные повышенные обязательства, которые также с успехом были перевыполнены. Рост производительности труда против задания повысился на 0,3%, т.е. при плановом задании 1,6% фактический прирост составил 1,9%. Освоено 104 наименования новых видов изделий и организован их массовый выпуск. По сравнению с 1960 годом выпуск продукции увеличился на 9,4%. Такие успешные результаты в 1961 г. были достигнуты благодаря широко развернутому социалистическому соревнованию". Пачатак вельмі аптымістычны, як звычайна шчодра разбаўлены голай камуністычнай рыторыкай. А вось працяг — зусім інакшы:"Наряду с хорошими результатами в целом по Управлению, некоторые предприятия не выполнили производственного плана". І далей — пералік 14 прадпрыемстваў, якія не выканалі план. Сярод іх — Віцебскі завод металабытавых вырабаў, Віцебскі піўзавод, Аршанскі піўзавод і цагляны завод, Полацкая мэблевая фабрыка і інш. Са 140 найменняў прадукцыі, план выкананы толькі па 90 відам вырабаў. Напрыклад, завод металабытвырабаў з 9 відаў прадукцыі выканаў план толькі па аднаму.

Чым тлумачаць невыкананне плана? Рознымі прычынамі. Па індпашыву абутку — завышаным заданнем; па вытворчасці баваўняных тканін нерытмічным забяспячэннем сыравінай, у выніку чаго прастойвала абсталяванне.

Дрэнна забяспечваліся прадпрыемствы запчасткамі для рамонта швейных машых, халадзільнікаў, радыёпрыёмнікаў, веласіпедаў і матацыклаў. Аказваецца, ужо тады былі нестыкоўкі ў тэхналагічным ланцугу, ужо тады сацыялістычная эканоміка паказвала сваю неэфектыўнасць, хаця быў Савецкі Саюз, СЭУ і ніякага развалу сувязяў не наглядалася.

Ніжэй змешчана табліца, дзе паказана, як зменшылася выт-ворчасць многіх відаў прадукцыі прамысловасці Віцебшчыны ў 1961 годзе, калі пачыналася будаўніцтва камунізму, у параўнанні з папярэднім годам.

| Назва прадукцыі | **Вытворчасць 1960г.** | **Вытворчасць 1961г.** |
|---|---|---|
| 1. Вытворчасць электраэнергіі | 2240 тыс.квт -гадзін | 680тыс.квт -гадзін |
| 2. Школьная форма | 0,1 тыс.штук* | 0,03 тыс.штук* |
| 3. Ільняныя касцюмы | 930 штук | ноль |
| 4. Баваўняныя касцюмы | 45 тыс.штук | 32 тыс.штук |
| 5. Шаўковыя касцюмы | 0,104 тыс.штук* | ноль |
| 6. Плашчы і накідкі | 87 тыс.штук | 77 тыс.штук |
| у тым ліку шаўковыя | 28 тыс.штук | ноль |
| 7. Вывазка дзелавой драўніны | 45 тыс.м³ | 37 тыс.м³ |
| 8. Вытворчасць кухонных сталоў | 9 тыс.штук | 7 тыс.штук |
| 9. Стулля | 32 тыс.штук | 28 тыс.штук |
| 10. Пліты тратуарныя | 2 тыс.штук | ноль |
| 11. Цвікі | 15,5 тон | ноль |

Зменшылася і вытворчасць на Віцебшчыне прадуктаў харчавання:

| Назва прадукцыі | **Вытворчасць 1960г.** | **Вытворчасць 1961г.** |
|---|---|---|
| 1. Мяса, уключаючы субпрадукты | 61,5 тон | 33 тоны |
| 2. Калбасныя вырабы | 113 тон | 109 тон |
| 3. Капуста квашаная | 329 тон | 181 тона |
| 4. Агуркі салёныя | 1101 тон | 592 тоны |
| 5. Хлеб пшанічны вагавы 1 сорт | 702 тоны | 487 тон |
| 6. Хлеб пшанічны вагавы вышэйшы сорт | 12,5 тон | 4,2 тоны |
| 7. Хлеб жытні | 25548 тон | 20668 тон |
| 8. Кандытарскія вырабы | 2367 тон | 1967 тон |
| 9. Макароны | 628 тон | 502 тон |
| 10. Віно вінаграднае | 14тыс. дэкалітраў | 6 тыс. дэкалітраў |

Таксама ўпаў выпуск сельгас машын, плугоў, шаўковых і шарсцяных сукенак і інш.

У тым "Годовом отчете" ёсць нараканні на нізкую якасць прадукцыі з-за незадавальняючага забяспячэння сыравінай і матэрыяламі. І хоць гэтыя дадзеныя датычацца толькі мясцовай прамысловасці, прыведзены дакумент яшчэ раз сведчыць, што камандна-адміністратыўная эканоміка заўсёды была і застаецца неэфектыўнай, няздольнай задаволіць жыццёвыя патрэбы людзей.

**А.Букачоў.**

* Так указана ў дакументах, напэўна каб "запудрыць" мазгі простаму люду

# Мой адказ Дудзінаву.

Пахмурны ліпень. Віцебск. Абласная бібліятэка. Праглядаю падшыўку "Народнай газеты". Так, нумар за 22-24 чэрвеня, артыкул "Молодёжная революция" или тень свастики над Белорусью?" Цікава, цікава. Пачынаю чытаць: "Серию весенних выступлений БНФ и его приспешников..." На слове "приспешники" мяне перасмыкае, і я з жахам гляджу на свой гадзіннік. Цьху ты, 22 ліпеня 1996 года, а здалося 1937-мы. Вельмі ўжо напамінае штампы тых гадоў: "приспешники империализма, клеймить позором, к ногтю".

Першае ўражанне, як заўсёды, не падманвае. "Господин Дудинов" з лёгкасцю знаходзіць "приспешников" і пачынае іх "клейміць". "Приспешниками" аказваюцца "такие, как Высоцкий и иже с ними, такие, как ждущий суда лидер профашистского "Правого реванша" Славомир Адамович (которого почему-то скромно называют всего лишь поэтом), такие, как мальчики из проБНФского "Белого легиона"..."

Не слаба хапіў. Праўда, "Белы легіён" г.Дудинов болей чапаць ня стаў, напэўна, памятаючы Азаронка, атрымаўшага аплявуху ад БЗВшніка Сталкевіча, і ведаючы, што "мальчики" у гэтай арганізацыі сур'ёзныя. Што датычыцца "всего лишь поэта" Адамовіча, то, напэўна, г.Дудинов геній нейкі, калі званне паэта яму здаецца "скромным". Хацелася б напомніць г.Дудинову, што "Правы рэванш" — арганізацыя нацыяналістычная, а ніяк не прафашысцкая. Няхай ён гляне ў тлумачальны слоўнік беларускай мовы й прачытае, што **нацыяналізм** — вызвольны рух народаў каланізаваных краінаў супраць захопнікаў-каланізатараў.

Болей за ўсё ад г.Дудинова дастаецца Сяржуку Высоцкаму й яго "Bielaruskaj partyi svabody". Што ж гэтаму г.Дудинову не падабаецца? Аказваецца: "..адзіная нацыя, адзіны народ, адзіная і моцная Беларусь". Ды яшчэ жаданьне БПС абараняць Радзіму, Бога, беларускі народ. Супраць гэтага можа выступаць толькі здраднік.

Мэтай свайго артыкула г.Дудинов паставіў давесьці, што выступленьні моладзі арганізавала БПС, а саму гэту партыю — ледзь не NATO. Пры гэтым ён стараецца ня бачыць сапраўднай прычыны, што вызвала ня толькі нядаўнія хваляванні моладзі, але й ўзнікненне правых маладзёжных арганізацыяў кшталту БПС, "Правага рэваншу" й "Белага легіёну". А прычына вось якая. З узмацненнем таталітарнага рэжыму на Беларусі, галоўны носьбіт нацыянальнай ідэі Беларускі Народны Фронт ня здолеў супрацьпаставіць адэкватныя меры этнічнаму тэрору, накіраванаму супраць беларусаў як нацыі. У выніку моладзь, якая была заўсёды больш радыкальная, чым старэйшае пакаленне, вылучыла са свайго асяроддзя лідараў, здатных весці нацыянальна-вызвольную барацьбу, адкінуўшы састарэўшую, на маю думку, фронтаўскую тэзу: "Фронт не адказвае насіллем на насілле з боку ўлад". Такім чынам бачна, што прычынай хваляванняў моладзі ёсьць ня БПС ці NATO, а палітыка нацыянальнай здрады, праводзімая кіраўніцтвам дзяржавы.

З апошнімі ж словамі г.Дудинова я не магу не згадзіцца. Цытую: "Такие, как Высоцкий и иже с ним..., Славомир Адамович..., как мальчики из проБНФского "Белого легиона" способны на многое. Они будут сражаться "всеми возможными способами". Так, будуць! І ня толькі яны. Камусьці стане вельмі няўтульна ў скураных крэслах, калі студэнты замест аўтаручак возьмуцца за аўтаматы.

**Сяржук Серабро.**

# Ішла звычайная каланізацыя...

**(пра адзін дакумент XIX стагоддзя)**

У сучасных палітычных гульнях досыць часта выкарыстоўваецца міф аб нейкіх "асаблівых адносінах" з боку расейскай імперскай адміністрацыі да беларусаў і Беларусі, пасля таго, як нас "возвратили". Гістарычныя факты сведчаць, што ўсходняя суседка да 1772 года нашай зямлі зайздросціла, баялася і крыўдзіла яе пры любой нагодзе, а пасля — адбывалася звычайная каланізацыя. Раздача земляў фаварытам, касякі расейскіх папоў і чынавенства, нават кожная хваля індустрыялізацыі, капіталістычнай ці камуністычнай, заносіла на нашу зямлю з "внутренних губерний" заводы разам з гаспадарамі і дырэктарамі, начальствам і работнікамі. Ніжэй будзе працытаваны дакумент пра з'яву з гэтага ж шэрагу. Ён быў надрукаваны ў статыстычным даведніку **"Города России в 1904 году", СПб., 1906, с.166-167;**

"1841 декабря 24". Для преподания способов вящаго распространения торговли и промыш-ленности в западном крае России, объемлющем губернии Могилёвскую, Витебскую, Минскую, Виленскую, Гродненскую, Киевскую, Волынскую, Подольскую и область Белостокскую, и для возвышения чрез то благосостояния тамошних городов повелено: 1) Купцов, мещан и вообще людей сво-бодного состояния и христианского исповедания, принадлежащих к другим выше не поменованным губерниям, и имеющих право на переход в городское сословие, если кто из них пожелает приписаться, с постоянным притом в местах приписки водворением, в городах или в имеющих Думы либо Ратуши местечках, казённых и помещичьих западного края, в последних с согласия их владельцев,— допускать к сему с одними свидетельствами местных начальств: что по существующим правилам не представляется никаких к их переходу препятствий, что они не подвергались наказаниям по суду за преступления и что те из них, которые обязаны рекрутскою повинностью, не состоят ни на первой, ни на второй очереди, не требуя затем на причисление их согласия от новых обществ. 2) Водворившимся на сем основании представить следующие облегчения: а) в течение двадцати пяти лет, считая срок сей с 1 января 1842 по 1 января 1867г., каждый из них увольняется, на пятнадцать лет, от всех следующих в казну податей и повинностей, равно как и от повинности рекрутской, если кто по званию своему оной подлежит; б) купцы при упомянутой льготе сохраняют торговые права той же гильдии, в которой каждый до перехода своего состоял, а лица, несостоящие в гильдиях, причисляются по новому водворению в мещане. Но тем из сих последних, которые, своим иждивением и для собственнного употребления, устроят или покупкою приобретут в местах нового водворения дома или торговые и мануфактурные заведения, как-то: лавки, фабрики и т.п., в продолжении означенного пятнадцатилетнего срока даруется, без платы гильдейских повинностей, право торговли: если таковые здания и заведения будут стоить не менее семи тысяч рублей сер., то по первой гильдии, если свыше трех тысяч — то по второй, и если свыше тысячи рублей — то по третьей гильдии. Действительные купцы третьей гильдии, при тех же условиях, пользуются торговыми правами второй, а купцы второй гильдии — правами первой; в случае смерти начальника семейства, даруемая льгота, до истечения каждому срока оной, распространяется и на вдову, детей и прочих родственников, к семейству принадлежащих, пока они остаются в пределах тех губерний, для коих льгота сия постановлена.

(Втор. Полн. Собр. Зак. т.XVI №15/145)

г.Ворша. **Віктар Сцяпанаў.**

**Адрас рэдакцыі: 210601, г.Віцебск, вул.Гогаля, 17.**
**Хатні тэлефон рэдактара – 33-52-41**
**Набрана і звярстана выдавецкай фірмай СІПХАЗ**
**Надрукавана ў друкарні імя герояў Грунвальда**

**"Выбар". Заснавальнік Віцебскі гарадскі клуб выбаршчыкаў "За дэмакратычныя выбары".**
**Рэдактар Барыс Хамайда**
**Наклад 499 асобнікаў**
**Замова–79**
**Падпісана да друку 29.07.96 г.**
**Кошт па дамоўленасці**